ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 9 (71)

ВЕРАСЕНЬ 1938 г.






ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1938

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
УПРАЎЛЕННЯ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

№ 9 (71)
ВЕРАСЕНЬ
1938

# УСЕСАЮЗНЫ ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА 1939 ГОДА

## Аб выкананні пастаноў СНК БССР ад 9 ліпеня і ад 8 жніўня па пытанню аб падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва 1939 года па Магілеўскай вобласці

### Пастанова Совета Народных Камісараў БССР

Адзначыць, што становішча падрыхтоўчых работ па перапісу насельніцтва 1939 г. па Магілеўскай вобласці прадаўжае аставацца нездавальняючым: не ўстаноўлена граніца горада Магілева, не ўпарадкаваны назвы вуліц і нумарацыя дамоў у горадзе Осіповічы, у Дрыбінскім і Магілеўскім раёнах не ўдакладнены раённыя карты і не закончана праверка пагаспадарчых кніг сельсовецкага учота. Да арганізацыі камісій садзейнічання перапісу прыступілі 8 раёнаў вобласці з 20. Оргкамітэт не прыступіў да зацвярджэння кіруючых кадраў перапісу. Райвыканкомы зацвердзілі толькі 10 проц. патрэбнай колькасці кадраў перапісу.

Такое становішча падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва з'яўляецца вынікам самаўхілення оргкамітэта ад кіраўніцтва работамі па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва.

Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Указаць старшыні оргкамітэта па Магілеўскай вобласці тав. Церахаву на поўную адсутнасць з яго боку кіраўніцтва падрыхтоўчымі работамі да перапісу насельніцтва і невыкананне пастаноў СНК БССР аб разгортванні падрыхтоўчых мерапрыемстваў да перапісу.

2. Абавязаць старшыню оргкамітэта па Магілеўскай вобласці забяспечыць непасрэдным кіраўніцтвам выкананне ўсіх падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва па вобласці, заслухоўваючы абласное ўпраўленне народна-гаспадарчага ўчота і райвыканкомы аб ходзе падрыхтоўкі.

3. Адзначаючы зусім недапушчальнае становішча з падборам і зацвярджэннем кадраў для правядзення перапісу па вобласці ў цэлым, абавязаць оргкамітэт прыняць меры, забяспечваючыя падбор і персанальнае зацвярджэнне кіруючых і масавых кадраў для перапісу насельніцтва ў тэрміны, устаноўленыя СНК СССР, прапанаваўшы райвыканкомам і горсоветам для гэтай мэты склікаць унечарговыя пасяджэнні прэзідыума.

4. Папярэдзіць тав. Церахава, што ў выпадку непрынятца рашучых мер на працягу 5 дзён да выканання гэтай пастановы,—СНК БССР прыме адпаведныя меры ўздзеяння.

5. Абавязаць Упраўленне наргасучота інфарміраваць СНК БССР аб ходзе падбору і зацвярджэння кадраў перапісу 5, 15 і 25 верасня.

Старшыня Совета Народных Камісараў БССР **Кісялеў**.

Кіраўнік справамі Совета Народных Камісараў БССР **Манышэў**.

*РАДИОГРАММА*

## Председателям областных оргкомитетов, председателям горсоветов, райисполкомов

Утверждение кадров переписи населения проходит неудовлетворительно. Имеются факты утверждения списком без вызова на президиум. Предлагаю подбор и утверждение кадров взять под личное наблюдение, проводя утверждение обязательно с вызовом на президиум. О принятых мерах информируйте Совнарком.

Председатель Совнаркома БССР **Киселев**.

14.8. 1938 г.

## Всем начальникам обл. УНХУ, райгоринспекторам Нархозучета

Из полученных телеграфных отчетов о ходе подбора и утверждения кадров для переписи населения видно, что не все товарищи до сих пор осознали решающее значение качества подбора кадров и срока их утверждения.

Ряд районов (Меховский, Полоцкий, Журавичский, Рогачевский, Будо-Кошелевский, Хойникский, Петриковский, Осиповичский и Шкловский) все еще продолжают „раскачиваться“ и ничего еще не сделали для представления кадров переписи на утверждение (телеграфных отчетов по телеграмме т. Абудеева не получено).

Подбор и утверждение кадров—работа огромная и ответственная, требующая, чтобы райинспектор лично побеседовал с каждым товарищем, которого он представляет.

Кроме того, на президиуме райисполкома при утверждении также необходимо побеседовать с каждым в отдельности.

Это, естественно, требует энергичной и усиленной работы прежде всего от самого райинспектора; затягивание этой работы может привести затем к вредной гонке и повторению грубейших извращений, имевших место в 1937 году, когда кадры утверждались в некоторых местах „пачками". Неужели это неясно еще и теперь райинспекторам указанных выше районов (тт. Куриленко, Капорикову, Бажонку и др.) — участникам переписи населения 1937 года?

Нельзя больше терпеть такого бездействия и недисциплинированности в столь ответственной работе, как подготовка к переписи.

Начальникам обл. УНХУ и нач. бюро переписи проверить ход подбора и утверждения кадров в районах, принимая меры по немедленной ликвидации замеченных недостатков.

Всем райинспекторам, не представившим телеграфного отчета согласно телеграфного распоряжения т. Абудеева, сообщить УНХУ БССР не позднее 20/VIII, почему не выполнено это распоряжение.

Еще раз предупреждаем всех райинспекторов о вредности оттяжки подбора и утверждения кадров, недопустимости утверждения кадров „пачками" и о необходимости теперь во-всю развернуть работу по подбору и утверждению кадров с полным сохранением порядка, указанного в постановлении правительства, строго соблюдая персональное утверждение участников переписи.

Зам. начальника Управления
нархозучета БССР Шиндлер.

14.8.1938 г.

## Пастанова оргкамітэта Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР па Магілеўскай вобласці ад 21/VIII 1938 года

### Аб становішчы падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва па Дрыбінскаму і Касцюковіцкаму раёнах

Заслухаўшы інфармацыі старшыні Дрыбінскага райвыканкома тав. Клімава, старшыні Касцюковіцкага райвыканкома тав. Махавікова і ч. в. а. райінспектара Наргасучота Касцюковіцкага раёна т. Федасеенка аб становішчы падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва ў гэтых раёнах, а таксама садаклад нам. начальніка абл. УНГУ тав. Леўковіча, оргкамітэт Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР адзначае, што падрыхтоўчыя работы да перапісу насельніцтва ў гэтых раёнах знаходзяцца ў нездавальняючым становішчы.

Да гэтага часу ў Касцюковіцкім раёне не ўкамплектавана пасада раённага інспектара Наргасучота. Камплектаванне і зацвярджэнне кадраў для перапісу па Касцюковіцкаму і Дрыбінскаму раёнах праходзяць вельмі марудна.

Не гледзячы на пастанову СНК БССР і пастанову оргкамітэта Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР па Магілеўскай вобласці аб падрыхтоўчых работах да перапісу насельніцтва, райвыканкомамі гэтых раёнаў указаныя пастановы не выкананы ў частцы канчатковай праверкі пагаспадарчых кніг сельсоветаў, забеспячэння райінспектароў Наргасучота ўдакладненымі раённымі картамі, а па Касцюковіцкаму раёну картамі м. Касцюковічы, што не дае магчымасці скласці арганізацыйны план падрыхтоўкі да перапісу ў гэтых раёнах.

Масава-растлумачальная работа аб прадстаячым перапісу па гэтых раёнах яшчэ зусім не разгорнута; камісіі садзейнічання перапісу па-сутнасці яшчэ не прыступілі к рабоце.

Становішча падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва ў гэтых раёнах паказвае, што старшыні райвыканкомаў тт. Махавікоў і Клімаў да гэтага часу недаацэньваюць палітычнага значэння падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва, не правяраюць выкананне сваіх пастаноў і не кантраліруюць работу райінспектароў Наргасучота.

Лічачы такое становішча падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва па гэтых раёнах зусім недапушчальным, оргкамітэт Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР па Магілеўскай вобласці пастанаўляе:

1. Указаць старшыні Касцюковіцкага РВК т. Махавікову і старшыні Дрыбінскага РВК т. Клімаву на недапушчальнасць ігнаравання з іх боку пастаноў СНК БССР і оргкамітэта аб падрыхтоўчых работах да перапісу насельніцтва. Прапанаваць старшыні Дрыбінскага РВК у 5-дзённы тэрмін скончыць праверку пагаспадарчых кніг.

2. Прапанаваць старшыні Касцюковіцкага райвыканкома тав. Махавікову ў 5 дзённы тэрмін укамплектаваць пасаду райінспектара Наргасучота.

3. Улічваючы зусім дрэннае становішча падрыхтоўчых работ да перапісу насельніцтва ў Магілеўскім раёне і няяўку старшыні Магілеўскага РВК тав. Сарокіна на пасяджэнне оргкамітэта, пытанне аб становішчы падрыхтоўчых работ да перапісу ў Магілеўскім раёне заслухаць на наступным пасяджэнні оргкамітэта, патрабаваўшы ад т. Сарокіна паведамлення прычыны няяўкі на пасяджэнне оргкамітэта.

4. Абавязаць старшынь усіх райвыканкомаў неадкладна скласці план зацверджаных перапісных кадраў па раёну, праводзячы зацвярджэнне ў строга індывідуальным парадку, з абавязковым выклікам кожнага зацвярджаемага на пася-

джэнне прэзідыума райвыканкома; зацвярджэнне перапісных кадраў скончыць у строга ўстаноўленыя ўрадам тэрміны.

5. Папярэдзіць усіх старшынь райвыканкомаў, што за ігнараванне пастаноў СНК БССР і оргкамітэта Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР па Магілеўскай вобласці аб падрыхтоўчых работах да перапісу насельніцтва вінаватыя будуць прыцягнуты да адказнасці.

6. Даручыць тт. Казлову і Леўковічу распрацаваць канкрэтны календарны план зацвярджэння оргкамітэтам кадраў па перапісу па кожнаму раёну (нам. райінспектароў НГУ і загадчыкаў перапіснымі аддзеламі).

**Старшыня оргкамітэта Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР па Магілеўскай вобласці Церахаў.**

## Пастанова прэзідыума Уваравіцкага райвыканкома

Прэзідыум РВК адзначае, што падрыхтоўчая работа да Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года ў раёне праходзіць нездавальняюча.

Праведзенай Наргасучотам праверкай завядзення пагаспадарчых кніг сельсовецкага ўчота ўстаноўлены масавыя пропускі гаспадарак і насельніцтва (Калінінскі сельсовет—11 гаспадарак—102 чал., Глазаўскі сельсовет—16 гаспадарак—52 чал., Ліпскі сельсовет—26 гаспадарак—149 чал., Стара-Беліцкі сельсовет—10 гаспадарак—53 чал. і т. д.).

Дрэнна вядзецца ўчот прыбыўшага і выбыўшага насельніцтва, а таксама нясвоечасова робяцца адзнакі аб нарадзіўшыхся і памёршых. Гэта сведчыць аб паўтарэнні грубейшых памылак, меўшых месца пры падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва 1937 года і з'яўляецца вынікам безадказных адносін з боку старшынь і сакратароў сельсоветаў к вядзенню пагаспадарчых кніг.

Адзначыць, што інспектура Наргасучота не забяспечыла неабходнага кантролю за правільнасцю завядзення пагаспадарчых кніг сельсоветамі.

Масава-растлумачальная работа сярод насельніцтва аб задачах прадстаячага перапісу не праводзіцца.

Выходзячы з гэтага, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Абавязаць асабіста старшынь і сакратароў сельсоветаў своечасова рабіць адзнакі ў пагаспадарчых кнігах аб нарадзіўшыхся і памёршых, а таксама весці ўчот усіх прыбыўшых і выбыўшых гаспадарак і насельніцтва.

2. У мэтах прыцягнення грамадскасці к справе падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва і для правядзення масава-растлумачальнай работы сярод насельніцтва аб задачах перапісу,—прапанаваць старшыням сельсоветаў, кіраўнікам прадпрыемстваў і ўстаноў арганізаваць камісіі садзейнічання перапісу насельніцтва пры кожным сельсовеце, калгасе,

прадпрыемстве і ўстанове з прадстаўнікоў савецкіх, камсамольскіх, прафсаюзных і інш. грамадскіх арганізацый у колькасці 5—9 чалавек.

3. Абавязаць старшынь сельсаветаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ўстаноў далажыць прэзідыуму РВК 25 жніўня 1938 г. аб арганізацыі камісій садзейнічання. Спісы членаў камісій даслаць інспектуры Наргасучота.

4. Указаць старшыням сельсаветаў, калгасаў, кіраўнікам прадпрыемстваў і ўстаноў, што яны нясуць асабістую адказнасць за правядзенне масава-растлумачальнай работы ў сельсавеце, калгасе, прадпрыемстве і ўстанове і на неабходнасць узяць пад сваё кіраўніцтва работу камісіі садзейнічання.

5. Даручыць райінспектару Наргасучота тав. Кудрыцкаму да 25 жніўня праверыць разам з старшынямі сельсаветаў і камісіямі садзейнічання перапісу з палітычнага і дзелавога боку ўсіх вызначаных людзей для правядзення перапісу ў сельсаветах.

Персанальнае зацвярджэнне на прэзідыуме РВК інспектароў, кантралёраў і шчотчыкаў закончыць да 5/IX 1938 г.

В. а. старшыня РВК Руткоўскі.
В. а. сакратара РВК Барысенка.

## З пастановы прэзідыума Чэрыкаўскага РВК

*ад 19 жніўня 1938 года*

На падставе пастаноў СНК СССР ад 26 ліпеня 1938 г. „Аб Усесаюзным перапісу насельніцтва 1939 г.“ і СНК БССР „Аб мерапрыемствах па падрыхтоўцы і правядзенню Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 г.“ і ўлічваючы вялікае палітычнае і народна-гаспадарчае значэнне перапісу насельніцтва, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Абавязаць райінспектуру НГУ, пад асабістую адказнасць тав. Бернацкага, у строгай адпаведнасці з пастановамі СНК СССР і СНК БССР і ўказанняў ЦУНХУ пры Дзяржплане СССР, правесці перапіс усяго наяўнага насельніцтва, уключаючы і часова пражываючых па Чэрыкаўскаму раёну на дзень 17 студзеня 1939 г., а таксама запісаць і часова адсутнічаючых.

2. Для аказання дапамогі райінспектуры НГУ у справе падрыхтоўкі і паспяховага правядзення перапісу насельніцтва абавязаць старшынь с/саветаў і горсовета, старшынь калгасаў, дырэктароў і кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый стварыць да 1 верасня г. г. пры сельсаветах, горсовеце, калгасах, прадпрыемствах, установах і арганізацыях камісіі садзейнічання перапісу насельніцтва ў складзе 5—9 чалавек з прадстаўнікоў партыйных, комсамольскіх, профсаюзных і іншых грамадскіх арганізацый, з сельса-

вецкага і калгаснага актываў. Спісы на ўдзельнікаў гэтых камісій даслаць райінспектуры НГУ да 1 верасня г. г. Даручыць гэтым камісіям неадкладна прыступіць к правядзенню масава-растлумачальнай работы і забяспечыць, каб кожнаму грамадзяніну былі добра вядомы мэты і задачы прадстаячага перапісу і адказнасць грамадзян, ухіляючыхся ад дачы звестак альбо даючых заведама няправільныя звесткі пры перапісу.

3. Абавязаць старшынь с/саветаў і горсовета да 10 верасня г. г. правесці пашыраныя пленумы па пытанню падрыхтоўкі і правядзення Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва, на якіх намеціць канкрэтныя мерапрыемствы, забяспечваючыя паспяховае і высокаякаснае правядзенне перапісу, арганізаваўшы праверку і дапамогу камісіям садзейнічання перапісу насельніцтва ў правядзенні масава-растлумачальнай работы.

4. Абавязаць дырэктароў і загадчыкаў школ з пачаткам заняткаў у школах правесці гутаркі сярод вучняў па перапісу насельніцтва.

5. Абавязаць загадчыкаў хат-чытален і раённага дома соцкультуры сістэматычна праводзіць растлумачальную работу па перапісу насельніцтва, скарыстаць для масавай работы кіно і іншыя пастаноўкі.

6. Абавязаць кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый бясспрэчна аслабаніць вызначаных для перапісу насельніцтва падпарадкаваных ім работнікаў ад асноўнай работы на час правядзення перапісу насельніцтва з захаваннем за імі зарплаты.

7. Абавязаць с/саветы і горсовет на час падрыхтоўкі і правядзення перапісу насельніцтва забяспечыць загадчыкаў перапісных аддзелаў, іх памочнікаў і інструктароўкантралёраў сродкамі перасоўвання ў межах с/саветаў.

8. Абавязаць с/саветы і горсовет прадставіць для перапісных аддзелаў і інструктарскіх участкаў на час падрыхтоўчых работ і правядзення перапісу ўпаўне прыгодныя памяшканні, устанавіць належнае захаванне і ахову матэрыялаў па перапісу насельніцтва.

9. Абавязаць райаддзел сувязі забяспечыць унечарговае і бесперабойнае абслугоўванне тэлефоннай сувяззю ўсіх работнікаў перапісу па справах перапісу насельніцтва.

**Старшыня РВК Н. Шах. За сакратара РВК Фонкац.**

## Пастанова прэзідыума Брагінскага РВК

*ад 21 жніўня 1938 года*

Згодна пастановы СНК СССР аб правядзенні перапісу насельніцтва, прэзідыум РВК пастанаўляе:

1. Абавязаць райінспектара Наргасучота Брагінскага

раёна забяспечыць выкананне пастановы СНК СССР аб Усесаюзным перапісу насельніцтва 1939 года, для чаго падрыхтаваць падабраныя перапісныя кадры к вызначанаму часу ўрадам.

2. Абавязаць інспектара НГУ правесці інструктаж і праверку ведаў інструктароў-кантралёраў, шчотчыкаў і другіх работнікаў, занятых у перапісу, згодна вызначанага часу і інструкцыі СНК СССР.

3. Абавязаць старшынь сельсоветаў правесці спецыяльныя пленумы сельсоветаў аб Усесаюзным перапісу насельніцтва з пастаноўкай пытання аб прычыне адмены перапісу 1937 года, а таксама правесці сходы ў кожным населеным пункце з тым, каб давесці да кожнага працоўнага задачы перапісу.

4. Абавязаць старшынь сельсоветаў: Шкуратоўскага, Крыўчанскага, Спярыжскага, у якіх знаходзяцца цэнтры перапісных аддзелаў па перапісу насельніцтва, прадставіць работнікам, праводзячым перапіс, прыгодныя памяшканні для падрыхтоўкі і правядзення перапісу, а таксама забяспечыць сродкамі перамяшчэння ў межах сваіх участкаў па патрабаванню работнікаў перапісу насельніцтва.

5. Абавязаць райаддзел сувязі прадстаўляць тэлефон, тэлеграф па пытаннях перапісу насельніцтва работнікам перапісу ўне чаргі.

6. Абавязаць старшынь сельсоветаў у трохдзённы тэрмін прывесці пагаспадарчыя кнігі ў належны парадак, весці рэгулярна і правільна ўчот прыбыўшага і выбыўшага насельніцтва.

7. Абавязаць інспектара НГУ інфарміраваць прэзідыум РВК аб падрыхтоўчых работах па перапісу насельніцтва.

8. Забяспечыць кіруючы персанал перапісу насельніцтва ў раёне на час падрыхтоўчых работ сродкамі перамяшчэння.

Старшыня РВК Расоўскі.
Сакратар РВК Зімін.

## Пастанова пленума ЦП саюза работнікаў Дзяржустаноў БССР па пытанню аб падрыхтоўцы да Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 года

Перапіс несельніцтва нашай соцыялістычнай радзімы мае велізарнейшае дзяржаўнае значэнне. Матэрыялы перапісу паслужаць асновай для далейшага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў 3-й сталінскай пяцігодцы. Яны дадуць магчымасць дакладна ўлічыць рост і склад насельніцтва СССР.

Для паспяховага правядзення Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва адной з рашаючых умоў з'яўляецца добраякаснае правядзенне падрыхтоўчых работ.

Аднак, падрыхтоўчыя работы да Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 г. па БССР, правадзімыя УНГУ, праводзяцца нездавальняюча. Да гэтага часу не закончана суцэльная праверка домаўладанняў (Гомель), не ўдакладнены межы гарадоў, не скончана нумарацыя домаўладанняў (Осіповічы, Крычаў, Віцебск, Орша, Дуброўна, Лепель, Барысаў, Слуцк, Смалевічы, Мозыр, Петрыкаў). Па-сутнасці не прыступлена яшчэ да зацвярджэння масавых кадраў ні ў адной вобласці рэспублікі, што ставіць пад пагрозу зрыву далейшае разгортванне падрыхтоўчых работ, заключаючыхся ў складанні арганізацыйных раённых планаў і ў перапісным раяніраванні, як рашаючай умовы паспяховай падрыхтоўкі і правядзення самога перапісу. Такое становішча падрыхтоўчых работ да перапісу тлумачыцца тым, што яны ў значнай частцы праводзіліся безадказна, без прыцягнення і мабілізацыі ўвагі совецкай грамадскасці і без удзелу саюза РДУ. Прэзідыум ЦП саюза не выканаў пастановы ЦК саюза РДУ ад 27/III 1938 г. па пытанню аб падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва і самаўхіліўся ад гэтай важнай палітычнай работы.

Лічачы, што перапіс насельніцтва 1939 г. можа быць праведзен толькі пры ўмовах шырокага прыцягнення ўсёй совецкай грамадскасці, большэвіцкай падрыхтоўкі, яшчэ большага павышэння рэволюцыйнай пільнасці, сапраўднага разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва,—пленум ЦП саюза РДУ БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе райгормясцкомы ўзяць пад кантроль шырокіх мас членаў профсаюза РДУ ўсе падрыхтоўчыя работы да перапісу насельніцтва, правадзімыя сістэмай УНГУ, у раёнах, гарадах і сельсоветах. Сістэматычна заслухоўваць даклады аб ходзе падрыхтоўчых работ нач. абл. УНГУ, райгорінспектароў НГУ.

2. Аказаць садзейнічанне органам Наргасучота на мясцах у арганізацыі камісій садзейнічання перапісу ва ўстановах і сельсоветах, вылучыўшы ў склад камісій упаўне правераных членаў профсаюзаў, лепшых актывістаў.

3. Абавязаць абласныя камітэты саюза і райгормясцкомы вылучыць з ліку лепшых работнікаў саюзаў актывістаў для сталай работы ў якасці раённых і ўчастковых інспектароў Наргасучота, укамплектаваўшы вакантныя пасады райгорінспектароў да 30 верасня г. г.

4. У сувязі з пачаўшымся наборам органамі Наргасучота масавых перапісных кадраў, абавязаць абласныя камітэты і райгормясцкомы вылучыць для ўдзелу ў перапісу актыўных членаў профсаюза, дапамагаючы таксама мясцовым органам Наргасучота ў праверцы перапіснога персанала.

5. Даручыць раймясцкомам і гормясцкомам разгарнуць соцспаборніцтва як паміж членамі саюза, непасрэдна ўдзельнічаючымі ў правядзенні падрыхтоўчых работ да перапісу,

так і паміж асобнымі райгорінспектурамі і апаратам абл. УНГУ на лепшую падрыхтоўку і правядзенне перапісу насельніцтва. УНГУ БССР арганізаваць кантроль і праверку выканання дагавораў па соцспаборніцтву.

6. Даручыць раймясцкомам саюза для разгортвання масавай растлумачальнай работы сярод насельніцтва аб значэнні перапісу насельніцтва сацыялістычнай дзяржавы—арганізаваць брыгады бяседчыкаў, агітатараў, кіраўніцтва якімі ўскласці персанальна на кіраўнікоў раймясцкомаў.

7. Шырока практыкаваць арганізацыю брыгад нізавога кантролю для праверкі выканання рашэнняў урада аб падрыхтоўцы да перапісу і для праверкі выканання планаў падрыхтоўчых работ (ступень, тэрміны, якасць работы і г. д.).

Даручыць прэзідыуму ЦП саюза на сваіх пасяджэннях сістэматычна заслухоўваць справаздачы раймясцкомаў аб канкрэтным удзеле іх у падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва і ў наборы масавых кадраў для вытварэння перапісу, з выклікам райінспектароў.

8. Абавязаць УНГУ БССР арганізаваць своечасовае складанне оргпланаў правядзення перапісу па раёнах, дабіваючыся канкрэтнага паказа ў іх асаблівасцей кожнага раёна, кожнай вобласці.

9. У другой палове жніўня правесці адзіны профдзень ва ўсіх дзяржаўных установах нашага саюза па пытанню аб перапісу насельніцтва і задачах саюзных арганізацый.

10. Абавязаць МК і РМК сістэматычна заслухоўваць даклады членаў саюза—удзельнікаў правядзення перапісу насельніцтва, як-та: райінспектароў, участковых інспектароў і інш.

11. Пленум ЦП саюза, адзначаючы велізарнейшае палітычнае значэнне прадстаячага Ўсесаюзнага перапісу насельніцтва, заклікае ўсіх членаў саюза прыняць актыўны ўдзел як у правядзенні падрыхтоўчых работ да перапісу, так і ў правядзенні самога перапісу, разгарнуўшы масавае соцспаборніцтва, ставячы сваёй мэтай заваяванне пераходнага Чырвонага сцяга ЦУНГУ СССР і ЦК нашага саюза.

## ЗАГАД № 71

### Па Магілеўскаму абласному Упраўленню наргасучота

*ад 25 жніўня 1938 г.*

Не гледзячы на шэраг прапаноў і папярэджанняў, Крычаўскі райінспектар Наргасучота тав. Лукашук да гэтага часу не прадставіў у абл. УНГУ спісаў населеных месц, схематычных карт сельсоветаў, плана гор. Крычава, спіса чыгуначных станцый з паказаннем мяркуемай колькасці чакаемых пасажыраў.

Апрача таго, тав. Лукашуком не прадстаўлена справаздачнасць аб ходзе падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва па становішчу на 13/VIII 1938 г., а таксама данясенне аб ходзе падбора і зацвярджэння кадраў перапісу па становішчу на 22/VIII 1938 г.

Усё гэта паказвае, што тав. Лукашук не зразумеў палітычнага значэння прадстаячага перапісу і задач работнікаў УНГУ у своечасовай і чоткай падрыхтоўцы да перапісу і праяўляе недапушчальную недысцыплінаванасць у выкананні заданняў абл. УНГУ.

Выходзячы з гэтага, загадваю:

1. За недысцыплінаванасць у выкананні заданняў абл. УНГУ райінспектару Наргасучота Крычаўскага раёна тав. Лукашуку абвясціць вымову і папярэдзіць яго, што ў выпадку непрадстаўлення вышэйпаказаных матэрыялаў на працягу трох дзен—ён будзе прыцягнут да больш суровай адказнасці як за ігнараванне ўказанняў абл. УГНУ.

2. Папярэджваю ўсіх райінспектароў НГУ Магілеўскай вобласці, што за малейшае праяўленне недысцыплінаванасці ў выкананні заданняў абл. УНГУ і асабліва заданняў, звязаных з падрыхтоўкай да Усесаюзнага перапісу насельніцтва, вінаватыя будуць прыцягнуты да суровай адказнасці.

Нам. нач. абл. УНГУ Леўковіч.

## Уключаюцца ў соцспаборніцтва на лепшую падрыхтоўку і правядзенне Усесаюзнага перапісу насельніцтва

Мы, работнікі Багушэўскай райінспектуры Наргасучота, абмеркаваўшы соцдагавор, заключаны Менскім і Віцебскім абл. УНГУ, і ўлічваючы надзвычайную палітычную важнасць прадстаячага перапісу насельніцтва 1939 года, бярэм на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Падабраць да перапісу насельніцтва палітычна праверанных і тэхнічна-граматных людзей у якасці шчотчыкаў, кантралёраў і пам. заг. перапіснымі аддзеламі.

2. Праверыць дакладнасць спісаў населеных пунктаў, спісаў домаўладанняў, выправіўшы ўсе дапушчаныя памылкі.

3. Праверыць і прывесці ў парадак увесь картаграфічны матэрыял.

4. Своечасова і добраякасна правесці інструктаж масавых кадраў (кантралёраў і шчотчыкаў).

5. Праверыць становішча завядзення пагаспадарчых кніг у сельсоветах, шляхам падворнага абхода двароў.

6. Своечасова і добраякасна скласці оргплан правядзення перапісу насельніцтва ў раёне.

7. Добраякасна і ў тэрмін праводзіць падрыхтоўчыя работы да перапісу.

8. Поўнасцю забяспечыць шырокую масава-растлумачальную работу сярод насельніцтва аб задачах і значэнні перапісу насельніцтва, ахапіўшы кожны калгас, прадпрыемства і школу.

9. Правесці перапіс не ніжэй як на „добра“ і дакладна ў тэрмін, указаны ўрадам.

10. Выклікаць на соцспаборніцтва райінспектуры Лёзнянскага і Сенненскага раёнаў.

11. Арбітрам просім быць нач. Бюро перапісу насельніцтва УНХУ БССР і нач. Віцебскага абл. УНГУ.

Дагавор падпісалі:

Райінспектар НГУ **Бацяноўскі.**
Учінспектары **Фралоў, Прохараў.**
Інструктар-статыстык **Рацінскі.**

---

Мы, работнікі Лёзнянскай райінспектуры Наргасучота, абгаварыўшы выклік Багушэўскай райінспектуры на соцспаборніцтва на лепшае правядзенне перапісу насельніцтва 1939 года, дагавор поўнасцю прымаем і з свайго боку ўносім наступныя дадаткі:

1. У мэтах прыцягнення грамадскасці да масавай работы па перапісу насельніцтва арганізаваць камісіі садзейнічання: раённую, пры кожным сельсовеце, а таксама пры кожным калгасе, соўгасе і буйным прадпрыемстве, праводзячы ўсе мерапрыемствы пры ўдзеле камісіі садзейнічання.

2. Правесці з участковымі інспектарамі семінар па вывучэнню брашур Баярскага і Враб‘ева аб перапісу насельніцтва ў адпаведнасці з праграмай Бюро перапісу насельніцтва і здаць тэхмінімум на „добра“.

3. Сістэматычна асвятляць у раённым друку ход падрыхтоўкі і правядзення перапісу насельніцтва.

4. Азнаёміць у натуры кожнага інструктара кантралёра і шчотчыка з сваім участкам.

5. Сістэматычна весці ўчот адбываючыхся тэрытарыяльных змен.

Райінспектар Наргасучота **Крукаў.**
Учінспект-ры **Сычоў, Кальнін, Пазнякоў.**
Інструктар-статыстык **Паўленка.**

---

Улічваючы ўсю важнасць і гаспадарча-палітычнае значэнне прадстаячага Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1939 г. і маючы на ўвазе, што высокая якасць падрыхтоўчых работ з‘яўляецца адной з асноўных умоў паспяховага правядзення перапісу насельніцтва, мы, работнікі Асвейскай інспектуры НГУ, уключаемся ў соцыялістычнае спаборніцтва, бярэм на сябе наступныя абавязацельствы і выклікаем Ветрынскую інспектуру НГУ:

1. Падабраць правераныя у палітычных і дзелавых ад-

